ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 8 (107) 24 лютага – 2 сакавіка 1995 г. Кошт 150 рублёў

*Людзям не трэба было нічога абяцаць. Ім проста секлі галовы ці саджалі на кол.* - ст. 2.

*Лукашэнка - чалавек без каманды. Абаперціся цалкам на савецкую выканаўчую уладу ён не можа.* - ст. 3.

*Будучыня за сярэднімі і вялікімі сялянскімі гаспадаркамі, пад кіраўніцтвам адукаваных спецыялістаў.* - ст. 4.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА КАШТАВАЎ 20 МІЛЬЁНАЎ

Як паведамілі ў адміністрацыі прэзідэнта, 17 лютага А.Лукашэнка наведаў брыгаду войск спецыяльнага прызначэньня, якая дыслакуецца ў Мар'інай Горцы.

Па маючайся інфармацыі, ваенныя выдаткі, зьвязаныя з падрыхтоўкай да візіта прэзідэнта, склалі каля 20 мільёнаў рублёў. Спецыяльна для забесьпячэньня прыёма Лукашэнкі і яго суправаджальнікаў былі зроблены закупы прадуктаў і алкагольных напояў. Напярэдадні візіта прэзідэнта памяшканьні, якія ён павінен быў наведзць, пачалі атапліваціа, некаторыя з іх нават былі пафарбаваны.

Па словах відавочцаў, у другой палове дня 16 лютага жаўнераў прымусілі з дапамогай ануч зьбіраць скапіўшуюся на асфальце ваду. Афіцэр брыгады, які пажадаў застацца невядомым, паведаміў, што "такога размаха паказуха не набывала нават у часы Вячаслава Кебіча".

## ТАРЫФЫ ПАВЫШАЮЦЦА – БЕЛАРУСЬ АТРЫМАЕ КРЭДЫТ?

Як паведамілі ў прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонду на Беларусі, у сярэдзіне сакавіка на Савеце дырэктароў МВФ будзе разгледжана пытаньне аб выдзяленьні Беларусі крэдыта ў памеры 250-300 мільёнаў долараў ЗША па лініі STAND BY.

Агульная патрэба рэспублікі ў зьнешнім фінансаваньні складае на 1995 год 700-800 мільёнаў долараў, з якіх 550 мільёнаў ужо адшукана Беларусьсю.

У прадстаўніцтве МВФ паведамілі таксама, што Беларусь выканала адкладзенае раней рашэньне аб павышэньні тарыфаў на камунальныя паслугі. Пасьля перамоваў з Федэрацыяй прафсаюзаў Кабінет міністраў паведаміў, што цэны на камунальныя паслугі павышаюцца.

## АМЕРЫКАНЦЫ ЖАДАЮЦЬ ЗАХАВАЦЬ СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ

На прэс-канферэнцыі па выніках візіта на Беларусь місіі Кангрэса ЗША каардынатар дапамогі новым незалежным дзяржавам Сайманс заявіў, што ў яго склалася станоўчае ўражаньне аб пачатых на Беларусі рэформах, аднак, па яго словах, у яго ёсьць некаторыя разнагалосьсі з беларускім кіраўніцтвам аб тэмпах рэформ: "Прэм'ер-міністр Беларусі лічыць, што рэформы ідуць вельмі хутка, у чым мы сумняваемся". Спадар Сайман таксама падкрэсьліў, што пасьля выдзяленьня крэдыта STF і плануемага STAND BY, якія былі падтрыманы ЗША, павінны скласьціся перадумовы для наступленьня мікраэканамічнай стабілізацыі. Адначасова ён адзначыў, што ў ЗША вельмі абмежаваныя рэсурсы дапамогі новым незалежным дзяржавам.

Па словах Саймана, узровень дапамогі Беларусі прадвызначаюць тэмпы і інтэнсіўнасьць рэформ у рэспубліцы. Каментуючы працэс зьбліжэньня Беларусі і Расеі, ён сказаў: "Мы жадаем спадзявацца, што наша дапамога беларускім рэформам заахавае суверэнітэт Беларусі". Прэм'ер М.Чыгір, які прысутнічаў на прэс-канферэнцыі, паведаміў, што ў хуткім часе чакаецца прыезд у Менск дэлегацыі патэнцыяльных інвестараў.

СІМ

## ЭФЕКТЫЎНА РАБОТАЦЬ ПРАКУРАТУРЫ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ЗАКОНЫ

**Упершыню ў пракуратуры Гарадзенскай вобласьці адбылася прэс-канферэнцыя на тэму "Аб стане законнасьці ў Гарадзенскай вобласьці і праблемах барацьбы са злачыннасьцю".**

Ва ўступным слорве намесьнік пракурора вобласьці У.Парамонаў паведаміў, што ў пачатку бягучага года працягвалася пагаршэньне крымінальнай сітуацыі. На 1 лютага было зарэгістравана 652 злачынствы, што на 15,5 працэнта больш, чым за аналагічны пераяд мінулага года. Але ж пракуратура прыкладае шмат намаганьняў і працуе ў розных накірунках для ўмацаваньня законнасьці. У.Парамонаў выказаў шкадаваньне, што гэтая работа не заўсёды бачна. Па яго словах, работнікі пракуратуры дастаткова вопытныя ў сваёй справе: звыш 60 працэнтаў з іх маюць стаж работы звыш 10 гадоў.

Потым работнікі пракуратуры адказалі на пытаньні журналістаў. Шмат разоў апошнія цікавіліся ўтрыманьнем асуджаных. Старэйшы памочнік пракурора вобласьці М.Паддубны паведаміў, што зараз у Гарадзенскай турме адбываюць пакараньні 301 чалавек, з іх 69 - рэцэдывісты, а ў Ваўкавыскай калоніі - звыш трох тысяч. Утрыманьне ў іх не адпавядае санітарным нормам, асуджаныя не заняты працай. У турме было знойдзена 49 літраў брагі, а ў калоніі канфіскавана амаль два з паловай кілаграма макавай саломкі. Там жа знойдзены сумы грошай як у рублях, так і СКВ: канфіскавана толькі долараў ЗША па 340 і 507 у турме і калоніі адпаведна.

На думку М.Паддубнага, нельга лічыць нармальнай зьявай, калі у адной камеры сядзяць рэцэдывіст і асуджаны на невялікі тэрмін пакараньня. Даўно паўстала неабходнасьць правядзеньня амністыі (МУСіМ Пракуратура прамоўвалі правесьці яе), але "камусьці было выгодна зарубіць яе". Аналагічна паступіў парламент з прапановай скараціць тэрмін пакараньня для пэўнай часткі асуджаных.

Работнікі пракуратуры неаднаразова гаварылі пра недасканаласьць заканадаўства. Дагэтуль няма закона, які б гарантаваў бясьпеку сьведкам. Па словах У.Парамонава, у законах іншы раз сустракаюцца паалажэньні, якія дазваляюць парушальнікам закону пазьбягаць адказнасьці. Напрыклад, ёсьць артыкул, які прадугледжвае дэклараваньне даходаў, але ж механізма яго рэалізацыі няма. Пракуратурай праводзілася праверка даходаў работнікаў мытні, якія маюць шмат аўтамабіляў, пабудавалі катэджы на вядомай у народзе "вуліцы Мытнікаў" у вёсцы Каробчыцы Гарадзенскага раёна. Але ж ніхто з 25-30-гадовых хлопцаў не быў прыцягнуты да адказнасьці: не было даказана, хаця гэта відавочна, што грошы не заўсёды атрымліваліся імі законным шляхам.

Ці такое пытаньне: чаму работнікамі пракуратуры павінны быць людзі з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй, а не журналіст ці той жа эканамітэт? Незаўсёды пракурорскі работнік можа быць спецыялістам шырокага профілю.

Цікавіла журналістаў і тое, ці праводзіцца рэабілітацыя незаконна рэпрэсіраванных. Старэйшы памочнік пракурора А.Іваноў запэўніў, што яна працягваецца . Летась перагледжана 4072 крымінальныя справы, па якіх рэабілітавана 2090 незаконна асуджаных. Яшчэ каля 10 тысяч спраў трэба перагледзець.

На прэс-канферэнцыі закранаіася таксама пытаньне працаўладкаваньня непаўнагадовых. начальнік аддзела па нагляду за выкананьнем законаў аб непаўнагадовых Л.Мельнікава адзначыла, што зараз яно стаіць вельмі востра: з 323 тысяч чалавек моладзі да 18 гадоў у вобласьці не працуюць і не вучацца 6 тысяч. Страта каштоўнасьцяў, арыенціраў у сям'і, дэбошы, п'янства, амаральныя паводзіны бацькоў негатыўна ўплываюць на дзяцей. Летась 98 падлеткаў уцякала з сям'і, 51 быў дастаўлены ў спецпрымальнікі. За фіксавана чатыры самазабойствы і столькі ж замахаў на іх, 13 фактаў жорсткага абыходжаньня з дзецьмі.

Не абмінулі журналісты ўвагай і справу па расьследваньню выпадка з расчляненьнем трупа: 4 лютага ў кар'еры ля вёскі Ласосна было знойдзена тулава мужчыны, а ў прыдарожнай лесапаласе ля вёскі Луцкаўляны - дзьве нагі. Па словах начальніка аддзела пракуратуры А.Пугача, за апошнія 20 гадоў гэта чацьвёрты падобны выпадак, адзін з іх не раскрыты. Нялепшым чынам абстаяць справы і на гэты раз. Дагэтуль невядома, ці часткі гэта аднаго цела: правесьці ў Горадні спецыяльную экспертызу не могуць, ёсьць праблемы з яе правядзеньнем і ў Менску. Хаця ў сьледчую групу ўвайшлі лепшыя сышчыкі, не вядомы пакуль асобы ні забітага, ні забойцы. Інфармацыя пра гэты факт пайшла ў памежныя з Беларусьсю краіны. Пракуратура ў чарговы раз зьвяртаецца да грамадзян, якія валодаюць інфармацыяй, якая можа дапамагчы сьледзтву, з прозьбай патэлефанаваць па нумарах 44-50-10, 44-53-47 альбо 02 па месцу жыхарства.

А.ДУК.

## ВЫЗНАЧЫЛІ «КАНДЫДАТАЎ У КАНДЫДАТЫ»

16 лютага адбылася гарадзкая канферэнцыя Гарадзенскай арганізацыі руху БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ. З дакладамі на ёй выступілі К.Жынь ("Аб палітычнай сітуацыі і пераспктывах Беларусі), А.Астроўскі ("Аб правядзеньні выбараў у Вярхоўны Савет РБ"), А.Міхальчык ("Аб пагрозе ўцягненьня Беларусі ў ваенныя канфлікты").

Асноўным пытаньнем у павестцы дня канферэнцыі было вылучэньне "кандыдатаў у кандыдаты" - тых, хто, магчыма, будзе балатавацца ў новы Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ад гарадзкой арганізацыі Беларускга Народнага Фронта. Сябры партыі прынялі рашэньне вылучыць у якасьці прэтэндэнтаў у кандыдаты кандыдатуры К.Жыня (у яго падтрымку выказалася 44 чалавекі), Т.Маліноўскай (43 чалавекі), М.Маркевіча 942 чалавекі), В.Задалі (40 чалавек), А.Міхальчыка (43 чалавек), С.Мальчыка (36 чалавек).

А.Д.

## СУД НЕ АДБЫЎСЯ

На 22 лютага было запланавана паседжаньне народнага суда Ленінскага суда Горадні па іску дэпутата Гарадзенскага гарадзкога Савета І.Палубка да дэпутата гарсавета, сакратара арганізацыі Партыі камуністаў Беларусі Г.Гіраса.

Паседжаньне перанесена на 9 сакавіка, таму што адказчык у суд не зьявіўся.

А.Г.

## ПІНЧУКІ ЖАДАЮЦЬ ВЯРНУЦЬ БІБЛІЯТЭКУ

У Пінску напярэдадні візіту Б.Ельцына на Беларусь быў праведзены збор подпісаў пад зваротам да прэзідэнтаў Беларусі і Расеі. У ім утрымліваецца прозьба абмеркаваць у ходзе перамоваў пытаньне аб вяртаньні ўнікальнай бібліятэкі, вывезенай у 1940 годзе ў Расею з Пінскага іезуіцкага калегіума. Арганізатарамі гэтай акцыі выступілі фонд братоў Луцкевічаў і мясцовае аддзяленьне Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

СІМ

## АПТЭКА Ў ФАРНЫМ КАСЬЦЁЛЕ

Дырэкцыя аб'яднаньня "Гроднамэбля" атрымала апошняе папярэджаньне аб тым, што да 1 ліпеня ёй трэба вызваліць памяшканьне салона мэблі, што разьмешчаны на Савецкай плошчы ў будынку былой іезуіцкай аптэкі - помніку архітэктуры пачатку XVIII стагоддзя. Справа ў тым, што гарадзкой праграмай "Спадчына" прадугледжана стварыць тут музей-аптэку. Спадзяёмся, што адноўленая музей-аптэка выклікае вялікую цікавасьць жыхароў і гасьцей Горадні і ўсяго Прынёманскага краю. Магчыма, у бліжэйшы час пры Дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі будзе створана рабочая група па распрацоўцы экспазіцый і збору экспнатаў для музея-аптэкі.

М.М.

## ГЭЙ, НАВАГРАДЧАНЕ!

Такі покліч зьвернуты да тых, хто нарадзіўся ў межах былога Наваградзкага ваяводзтва, хто душою і сэрцам адчувае сябе зьвязаным са славутым прынёманскім краем.

Справа ў тым, што сёлета спаўняецца 950 гадоў з часу летапіснага ўпамінаньня Наваградка, а таксама 400-годдзе наданьня гораду герба. Вось і ўтварылі ў горадзе Згуртаваньне наваградцаў сьвету (ЗНС). Яго ўзначаліла дырэктар мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея спадарыня Вяршыцкая.

- Мэта згуртаваньня, - зазначыла Т.Вяршыцкая, - перш за ўсё накіравана на тое, каб зьберагчы спадчыну краю, дапамагчы сваёй роднай і любай зямлі выстаяць у гэтыя цяжкія хвіліны.

Першы зьезд наваградцаў сьвету плануецца правесьці у сярэдзіне чэрвеня 1995 года. Разгорнута вялікая падрыхтоўчая работа. Сяркуецца сабраць разам дачок і сыноў гэтага горада з розных краін сьвету.

М.М.

## НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ ЗА ЎСЁ

Далей ўсіх у сферы эфектыўнасьці распаўсюджаньня інфармацыі на беларускім рынку рэкламы "скокнулі" заснавальнікі газеты "Гродненская ярмарка" - МП "Ярмарка".

Своечасова адаслаўшы падпісны газетны купон, каля паўгода яе нумары бясплатна атрымліваюць многія жыхары вабласнога цэнтра.

Зараз наклад чатырохпалоснага выданьня складае 51 тысячу паасбонікаў і друкуецца яно ў Беластоку. Але ж калі ў Берасьці кіяскёры "Белсаюздруку" да стоса набываемых у іх газет дадаюць "Гродненскую ярмарку" бясплатна, то ў гарадах і мястэчках Гарадзеншчыны яе ўжо прадаюць за 50 рублёў.

## СПРАВА ЗА ЎРАДАМ

У студзені з канвеера Гарадзенскага завода карданных валаў сышлі першыя дзесяць аўтамабіляў "Ока". Яшчэ дзесяць малалітражак, купленых у Расеі, рэалізаваны пры вывучэньні спажывецкага попыту.

"Пагоня" раней паведамляла, што "Ока" зьбіраецца з запчастак, якія пастаўляюцца Камскім аўтамабільным завлдам чатырмя рабочымі за трое сутаак. Але ж ці будзе "Ока" і надалей зьбірацца ў ГОрадні - пытаньне. Як паведаміў карэспандэнту расейскага агенцтва "ИМА-пресс" намесьнік дырэктара завода па эканоміцы К.Зьвераканскі, пры існаваўшай падаткавай палітыцы ў 1994 годзе яе кошт даходзіў да 2900 долараў і пры гэтым яна можа мець попыт, з улікам жа новых падаткаў ён павялічваецца да чатырох тысяч. Праўда, пры адмене ўрадам рэспублікі цэлай сістэмы падаткаабкладаючых элементаў, якія ўплываюць на кошт малаллітражкі, ёсьць магчымасьць выпускацб аўтамабілі для патрэб Міністэрства сацыяльнага забеспячэньня, якому штогод неабходны чатыры тысячы легкавікоў.

Л.ЯСЕНЬ.

## 20 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ ЗА БЫЛОГА МУЖА

Супрацоўнікі праваахоўчых органаў Горадні арыштавалі грамадзяніна Чачні М.Джунгурава за пагрозы зьнішчэньня сям'і жыхаркі Горадні спадарыні Л.Касаравай.

Як стала вядома, Джунгураў папярэдні патрабаваў ад гарадзенкі 20 тысяч долараў у якасьці выкупу былога мужа Косаравай, які захоплены адной чачэнскай злачыннай групоўкай і ўтрымліваецца заложнікам у Маскве.

СІМ

# ПАЛІТЫЧНАЯ СТАРОНКА

## «ТУНЭЛЬ». ХТО І ДА ЯКОЙ ПАРЫ БУДЗЕ ТРЫМАЦЬ У ІМ БЕЛАРУСАЎ?

**Сорак шэсьць год свайго жыцьця я чую “Абяцанку” пра міфічнае “Святло”. У міфічным “Канцы” міфічнага “Тунэля”. Мільёны старэйшых і маладзейшых жывуць гэтай “Абяцанкай”. Мільёны суайчыньнікаў загінулі, забіты, памерлі з думкай пра “Абяцанку”.**

Што здарылася з некалі мужным народам? Няўжо сапсавала беларусаў пахвальба аб працавітасьці ды рахманасьці? Дык гэта больш падыходзіць да Сівага каняві калгаснага. Яго заезьдзілі ўсе, каму ён пад рукі трапляецца. Кормяць жа і ўтрымліваюць як і давядзецца. Конь гэтый нічый. Ён агульнанародны. Ім карыстаюцца яшчэ і дзеля выхаваньня непаслухмяных і наравістых пенсіянераў - былых калгасьцнікаў: “Не праполіш паўгектара буракоў - не дамо каня: здохнеш!” А дзе хутчэй “здохне” чалавек: на “бураках” пад чэрвеньскім сонцам ці без каняві? Вось і выбірай.

Трапіўшы ў разрад “нічыіх”, беларус увесь час вымушаны выбіраць паміж дрэнным жыцьцём і яшчэ горшым. Старыя людзі на вёсцы так і кажуць: “Якога лепшага жыцьця ты хочаш? Дзякуй ма Богу, што не забілі!”

Жыцьцё на гэтай тэрыторыі ніколі не было лёгкім. Крымскае Ханства (тэрыторыя цяперашняй Расеі) імкнулася праз галовы прашчураў нашых, з лукамі ды дзідамі, у Эўропу да “крайняга Мора”. Тэўтонскія рыдэлі (крыжаносцы) мячамі насаджалі маім слаўным беларусам-ліцьвінам свой (нямецкі) варыянт веры ў Хрыста. Абсадзілі тады і адных лукамі і другіх з мячамі. Шмат год потым расейскія цары-"добразычліўцы" ад Івана да Пётра спусташалі нашыя землі, але заваяваць не змаглі. Завяршыла ўдушэньне беларусаў немка Кацярына II пры дапамозе рускага Суворава.

Ніякіх арганізацыяў нашкталт ААН тады не было. Людзям не трэба было нічога абяцаць. Ім проста секлі галовы ці саджалі на кол.

У першай палове XX стагоддзя, з пранікненьнем “буржуазнага” паняцьця “Дэмаакратыя” (толькі не ленінскага, бо гэта - супрацьлегласьць) справа з галовамі і каламі ўскладнялася. Потым, з перамогай бальшавізму (інтэрнацыянал-сацыялізм) у Расейскай імперыі і фашызму (нацыянал-сацыялізм) у Германіі справу значна спрасьцілі і паставілі на паток. Гітлер, праўда, не крывадушнічаў, аб'явіўшы арыйцаў гіпербарэямі, а некаторыя нацыі непатрэбшчынай, адкрыта іх зьнішчаў без усялякіх фармальнасьцяў.

“Нашыя” ж забойцы аб'явілі сябе самымі гуманнымі ў сьвеце і вымушаны былі прыдумваць “хуткі рэвалюцыйны суд” -"тройку". Яна выносіла прыгаворы за тры секунды, а расстрэльвалі чалавека ці прама на месцы( каб не базыцца, мабыць), ці на працягу сутак (відаць, палічылі, што так акуратней - бо не трэба вазіцца з трупамі і крывёю. Часу ды “человеческого материала” хапала, каб вопыту набрацца). Ды і не людзей бальшавікі зьнішчалі, а “социально чуждый элемент”. У большасьці сваёй “элемент” гэты быў у лапцях ці босы зусім. Зьнішчалі беларусаў, якія не разумелі: як можна жыць без зямліцы ўласнай, без каняві свайго, без маёмасьці.

Потым Сталін з Гітлерам не падзялілі Сусьвет, бо аднаму патрэбны былі сібірскія багацьці, а другому - нямецкая тэхналогія і тэхніка. У Сталіна, акрамя таго, была ўстаноўка папярэдніка Леніна: “...пойдём быстро и твёрдо к победе Всемирной Социалистической Советской Республики!” (IX зьезд ВКП(б) - 05.04.20).

Бальшавікам тут удалося не толькі пашырыць межы ў Эўропе ды Азіі, а вынішчыць значную частку “элемента” ды “материала” на абсалютна “законнай” падставе. Акрамя таго, імі была зроблена спроба сьпісаць на вайну Катынь ды сотні Курапат. Часткова гэта ўдалося, бо людзі, не ўнікаючы ў сутнасьць спраў, лічаць, што “кожны чацьвёрты ў зямлі беларус” - гэта вынік вайны.

У свой час царкоўнікі абяцалі (як пасрэднікі паміж Богам і людзьмі) благадзенства на тым Сьвеце паслухмяным (рахманым) беларусам. Бальшавікі вынішчалі царкоўнікаў. Вось тут і зьявіўся лозунг: “Уже нынешнее поколение советских людей будет жыть при коммунизме!”

У людзей адабралі ўсё (нават спачуваньне да забітых), зьнявечылі і Прыроду рукамі людзей, што засталіся ў жывых пасьля столькіх вынішчэньняў і войнаў. Гвалт гэты суправаджаўся заклікамі аб “Сьветлай будучыні”, - а гэта і ёсьць міфічны “Свет” у міфічным “Канцы” міфічнаага “Тунэлю”.

Абалваненыя людзі скарыліся. Ім ўжо сталі не патрэбнымі ні мова, ні культура: чакаюць, што іх хтось “накормит”. Чарговыя крыкуны заклікаюць пацярпець, і беларус убачыць “Свет в конце тоннеля”. Што ж азначае гэты “Сьвет” за апошнія шэсьць год для беларусаў? Першае: “Марш у стойла! Быдла!” - “Дзяды” - 1988г.; другое: “Нечего митинговать! Работать надо! Больше будете работать, - лучше будем жить!” - 1989г.; трэцяе: “Бездельники в городе бастуют, а на селе люди работают. Вот ежели село забастует, тогда вы попляшете!” - 1990г.

Заўважце, на сяле зараз жывуць дзяды ды бацькі гараджан. Гэта ж прамы заклік да грамадзянскай вайны.

3. “Мы должны накормить народ!” - Вярхоўны Савет (1990...1995...).

4. “Мы поставим всё на своё место. - 1991 г. (Пути).

5. “Гляньця, людцы, як было раней добра: Расея нам усё давала і як добра жылі. Брэжнеў жа той сам краў і нам даваў.” - з 1992 па сёняшні дзень.

6. Заключить новый Союз" - Горбачёв (1991 г.).

7. СНД - як вынік “гаспадараньня” за 75 год бальшавізму.

8. “Заключыць ваенны Саюз!” - Кебіч В.Ф.

9. “Агульная рублёвая зона” - * -

10. “СЭЎ - на новых падставах!” - * -

11. “Ніякіх граніц з Расеяй!” - * -

12. “Мытны дагавор з Расеяй!” - * -

13. “Прадаць Расеі нафтаперапрацоўчыя заводы і газапровад!” - * -

14. “Стварыць агульную эканамічную прастору!” - * -

15. “Заўтра будзе агульны рубель, галасуйце за мяне!” - * -

16. “Абярэця мяне, злодзеяў пасаджу!” - Лукашэнка А.Р.

17. “Хто мяне не панял, кагда я гаварыл парускy?!” - * -

18. “...А работы па барацьбе з карупцыяй хопіць...Разумееце, не пакончым з гэтым злом - нічога не зробім. Ні інфляцыю не пераможам, ні эканоміку не падымем, а значыць і жыцьцё людзей не палепшым... У Неапалі знаходзіца сташыня КДБ Ягораў, дзе разглядаюцца гэтыя пытаньні міжнародным супольніцтвам. Лепшыя умы ламаюць голавы, яднаюць намаганьні, каб перамагчы неяк гэтае зло”. ("Звязда" - 26.11.94г., N 243). - Пр-т Лукашэнка А.Р.

Ну вось і зноўку “Сьвет” нейкі затуманены ды і “Канца” “Тунэлю” зноў не бачна: “...не пакончым з гэтым злом - нічога не зробім...”

Ну, а калі не “пакончым”? Чаму ж сабралася заможная міжнародная супольнасьць, бо стала ёй паралельна барацьбе з карупцыяй. У нас жа ўсё жыцьцё выбіраюць прыарытэты барацьбы, а жыць калі людзям, браточкі-правадыры?! Ну, змагаецца Казлоўскі за зорку на пагонах, ну пайшоў Кебіч у адстаўку, дык хто зараз будзе цалавацца з Чарнамырдзіным у засос, каб даў танны газ? Ці ў гэтым выхад, паважаны Прэзідэнт?! Ну, увядуцца размеркавальныя карткі на “асноўныя” прадукты харчаваньня. Ну пойдуць на гэта яшчэ сотні тон высокакласнай паперы. ну, разрасьцецца апарат кантролю і размеркаваньня да такіх памераў, што не хопіць аніякіх патаемных агентаў, каб пракантраляваць іх работу. Дык што, можа ўвесьці законы Шарыяту? За 75 год бальшавізму ўсё гэта ўжо праверана на жывых людзях.

А магчыма проста паставіць сябе людзьмі? І з геаграфіяй у нас нядрэнна. Можа пачаць пабудову Чарнаморска-Балтыйскага нафта-газавага калектара праз тэрыторыю Беларусі? (Можна будзе выбраць, дзе выгодней: ці з Расеі, ці з Ірана з Эміратамі?) А можа навучыцца эфектыўна выкарыстоўваць навукова-прамысловы наш патэнцыял і танную кваліфікаваную рабочую сілу? А можа паслухаць прафесара Нікітчанку І.М. і заахвоціць матэрыяльна жадаючых яшчэ працаваць на зямлі сялян - арганізаваць фермерства, ці хаця б не перашкаджаць яму? Бо калгасы і саўгасы на ладан дыхаюць: чакаюць вясны без грошай і саляркі. Адабралі ў іх ураджай на 400 руб. за 1 кг зерня, а вяртаюць камбікорм па 1200 руб. за кг. Ды хто і дзе бачыў крэдыты сялу за 230% ? А хто бачыў сяло зусім без крэдытаў? А калі старшыня купіў 70 тон саляры, то механізатары палову прап'юць, бо зарплаты няма з верасьня, а калі ёсьць , то ...18-25 тыс. рублёў у месяц. Ды і не выпрацуе шмат бабулька ды дзядулька, скалечаныя такім жыцьцём і антычалавечай Сістэмай.

Прашу ўсіх “простых” людзей і заклікаю Прэзідэнта: хопіць барацьбы! Пара проста жыць і ствараць.

**Рыгор КУКСАЎ.**

## ДАРАЖЭНЬКІ ТЫ НАШ «ГОСПОДИН ПРЕЗИДЕНТ»!

Скажы, калі ласка, дакуль ты будзеш здзекавацца на намі - простымі людзьмі? Дакуль ты будзеш спакойна назіраць за тым, як твой народ усё больш зацягвае багна жабрацтва? Я не пішу ад імя ўсіх жанчын, пішу ад сябе, бо бачу жахлівае становішча ў сем'ях, чую, што гавораць людзі, а жанчыны аб табе ўвогуле нічога добрага не гавораць, бо ты падмануў свой народ, які табе паверыў. І цяпер мы жывём намнога горш, чым улетку. Як ты не мог памагчы свайму народу, навошта ты стаў прэзідэнтам? Чый дабрабыт ты хацеў наладзіць? Паверу, што свой і сваіх паплечнікаў, але толькі не наш. Хоць ведаеш ты, як жывецца ў сем'ях простых рабочых? Як можна пражыць на заробак у 200.000 рублёў сям'і з 4 чалавек, дзе муж атрымлівае заробак менш, чым жонка? Мой муж зараз не працуе, бо “Радыёпрыбор” стаіць. Я маю працоўны стаж 30 год, выгадавала траіх дзяцей, працую ў тры зьмены, але як пражыць пры такіх заробках і пры растучых з хуткасьцю метэарыта цэнах? Практычна немагчыма. Ты хоць раз паставіў сябе на наша месца. А твае празасядаўшыеся дэпутаты нават і не думаюць пра нас, а толькі пра свае ільготы і заробкі, якія ў многа разоў большыя за нашы. Чаго ж ты і твая каманда хоча ад усіх нас? Цярпеньне народа ўжо падыйшло да апошняй мяжы. Хоць гэта ты разумееш, каханенькі-родненькі? Не чакай, каб было так, як у вершы:

“Хутка я ўжо загукаю:
Стрэльбы, хлопчыкі, бяры".

Не трэба гуляць з цярпеньнем народа. Так, мы цярплівыя, але ж небясконца. Колькі ж можна цярпець? Трэба вам усім думаць, даць працу шэрым клетачкам у вашых (тваіх, прэзідэнт і дэпутацкіх) галовах.

Не абражайся за мой рэзкі тон, але ты гэта заслужыў.

**В. А.**

## ЦІ МАЕ ЗГОДА МЕЖЫ?

**17 лютага ў памяшканьні Дома народнай творчасьці адбыўся круглы стол дэмакратычных арганізацый Горадні, які праводзіўся пад эгідай БСДГ, прысьвечаны праблеме каардынацыі дзейнасьці ўсіх дэмакратычна-патрыятычных сіл нашага горада на надыходзячых выбарах.**

На гэтай канферэнцыі прысутнічаў, а таксама актыўна ўдзельнічаў ў абедзе і фуршэце небезвядомы тав. К.Койта. Ён прайшоў многалікія пераўтварэньні - з вучня каталіцкага сьвятара ў атэісты, з апошняга ў камуністы і сакратары парткаму медінстытута, затым нібыта ў дэмакраты. Нарэшце, пераўтварыўся ў мясцовага кіраўніка Партыі некай там справядлівасьці,. Здавалася, што К.Койта знайшоў сябе.

Як гарадзенскі лідар гэтай партыі тав.Койта не толькі прысутнічаў 6 лістапада 1994 года на пляцы Леніна на мітынгу, прадстаўнікоў усіх пракамуністычных і праімперскіх сіл нашага горада ў сувязі з чарговай гадавіцай падзеі, якая адбылася 77 год таму, але і выступаў там, стараючыся з усіх сіл пераканаць усіх у высокім сэньсе кастрычніцкага перавароту. Выступленьне Койты адбывалася перад адносна невялікім натоўпам, падаўляючую частку якога складалі людзі яўна пенсійнага ўзросту, якія трымалі чырвоныя сьцягі і ненапоўненыя сэнсам рускамоўныя лозунгі, сярод якіх красаваліся такія “перлы”, як “Нет диктатуре дельцов и тотальному абнищанию”, “Ленин и правда жизни неразделимы!” Прама ўтвар выступоўцу, які дагэтуль неаднойчы выказваўся, быццам бы ён дрэнна ставіцца да бальшавіцкага тэрору, гладзеў не толькі партрэт Леніна, а яшчэ і партрэт вядомага на ўвесь сьвет дыктатара-тырана Іосіфа Сталіна.

Яўная супярэчнасьць паміж дзьвума ўзгаданымі вышэй падзеямі, разьдзеленымі ўсяго толькі трыма месяцамі часу, можа выклікаць ў недасьведчанага чытача канфлікт пачуцьцяў і думак. А тлумачыцца несупадзеньне даволі лёгка. Проста наш герой зрабіў чарговы паварот у сваім жыцьці. Цяпер ён адзін з кіраўнікоў гарадзенскага аддзяленьня Партыі народнай згоды.

Але, гэты просты адказ наўрад ці можа задаволіць тых, хто сапраўды адносіць сябе да дэмакратычна-патрыятычных колаў нашага грамадзтва, бо перад імі ўпарта паўстае даволі сур'ёзнае пытаньне: дзе апошняя мяжа згоды, а дзе пачатак згодніцтва?

Эх, не перайсьці бы праз мяжу.

**А.САПАЧАЎ,**
**г.Горадня.**

## ПІКЕТ НА САВЕЦКІМ ПЛЯЦЫ

Сябры Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” правялі у суботу 18 лютага акцыю-пікет у скверыку на Савецкім пляцы пад дэвізам “Народ супраць вайны”. Людзі прыходзілі і ставілі свае подпісы пад тым, каб Рэспубліку Беларусь не ўцягвалі ў дагавор аб калектыўнай бясьпецы. За 2 гадзіны было сабрана каля 300 подпісаў. Асабліва актыўна ставілі подпісы жанчыны.

Некаторыя праходзячыя пыталіся, калі будзем падпісвацца аб недаверу Прэзідэнту А.Лукашэнка. Спрабавалі перашкодзіць пікетчыкам члены гэтак званага “Союза офицеров”. Яны крычалі, што без дагавору аб калектыўнай бясьпецы мы прападзем. Сябры ж БНФ “Адраджэньне” тлумачылі ім пра “выгоды” гэтага дагавору. Адзін з іх патэлефанаваў у КДБ, з заявай, што яго хацелі заставіць падпісацца сілаю. Падасьпеўшы на пляц супрацоўнік КДБ, паказаўшы сваё пасьведчаньне, пацікавіўся, што тут адбываецца, і не заўважыўшы нічога антыканстытуцыйнага, пайшоў.

**Л.ЛЯЎКО,**
**сябра Партыі БНФ**

## З ВОЛЬНЫМ ДУХАМ ДА ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ

Якім бы ні быў бязьлітасным, няпэўным, непрадказальным наш час, з пачаткам Новага года ўзмацняецца надзея на нейкія абавязкова лепшыя зьмены ў нашым жыцьці. Але ж цешачы сябе гэтай надзеяй, ніколі не варта забывацца, што прамень сьвятла і надзеі засьвеціцца ў нашым спакутаваным жыцьці толькі тады, калі ўзыдзе гэты прамень над усёй нашай Бацькаўшчынай, калі ўся Беларусь выйдзе з цемры, пазбавіцца духоўнага жабрацтва і нарэшце акрые ад сваёй страшнай хваробы - адсутнасьці нацыянальнай сьвядомасьці і годнасьці, зразумеўшы папярэдне, што гэтая хвароба здольна навек пахаваць і нашу нацыю.

Гістарычны лёс яшчэ не пакінуў нас, беларусаў, яшчэ спадзяецца ён, што дойдзем-такі мы да волі і долі. Але добра давайце падумаем: а ці ж можна быць пасапраўднаму вольным і мець долю ў прыгнечанай, бяздольнай краіне?

Не, нельга, бо адмежаваўшыся ад лёсу свайго краю, не перажываючы за яго годнасьць і пачэснае месца ў сьвеце, можна паступова ператварыцца ці ў вечна сагнутага нявольніка, ці ў сытага мутанта, што на няшчасьці спакойна капае сабе раскошнае, але прасякнутае тленам логава.

Усе мы, як кажуць, пад Богам ходзім. А найгалоўнейшая, самая вечная сьвятыня, што менавіта Богам кожнай нацыі дадзена - гэта мова, Бог падараваў нам, беларусам, адну з самых пяшчотных, спакойных, разважлівых моў сьвету, падараваў яе дзеля нашага жыцьця, дзеля нашага вызначэньня ў гісторыі і ў сьвеце.

Многа крыжовых дарог прыйшлося прайсьці нашай Маці - Беларусі. Капала магілу ёй, адабраўшы нават назву Беларусь, Расейская імперыя. Крывавым ботам раструшчваў Беларусь і яе лепшых сыноў і дачок камунізм, а Бацькаўшчына наша ўсё ж выжыла, бо мова родная жывіла ўсіх.

Сёньня некаторыя родныя дзеці Маці-Беларусі спакойна гавораць і пішуць:нацыянальнасьць - беларус, мова родная... руская.

Які ж гэта зьдзек з нашай сьвятыні, які зьдзек з самой нацыі! Да такога дзікунскага абсурду можа ўзьняцца розум і рука той асобы, якую паралізавала духоўнае жабрацтва.

Некаторыя апраўдваюцца: нас, маўляў, адвучылі, і цяпер надта ж ужо цяжка вярнуцца да роднага слова.

Але ж, аказваецца, за год-два любую замежную мову вывучыць можна, не гаворачы ўжо пра славянскую, польскую, а на родную мову, выходзіць, і тэрміну няма.

Дык няўжо мячом трэба біць у закасьцянелае сэрца, каб усьвядоміў беларускі люд гэты нічым не апраўданы жах: ні ў адной з краін сьвету не зьневажаецца, ні топчацца ў гразі сьвятыня - мова!

Ці ж абдыме вольны дух Беларусь, калі прэзідэнт і урад пагарджаюць роднай мовай?!

Напэўна - не.

**Г.ТАЎЛУЙ.**
**Наваградак.**

